

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№16(529) 22 студзеня 1993 г. Пятніца. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Кошт у розніцу — 4 руб.

## ФАКС

### Крестьянский союз меняет "фамилию"...

**Отныне эта организация, объединяющая белорусских "вольных землепашцев", будет называться так: Союз фермеров Беларуси.**

Так, по мнению самих фермеров, будет четче очерчен круг людей, имеющих к СФБ непосредственное отношение.

Таких людей в республике, по опросам социологов, будет немного — только 10 процентов белорусов ныне хотят самостоятельно работать на земле, конкурируя с колхозами-совхозами.

А больше, честно говоря, видимо, и не надо — лучше меньше, да лучше.

Павел СТАСЕВИЧ.

### Не ступайте на тонкий лед!

**На реках и озерах начался большой ледоход. Это крайне опасно для тех, кто собрался на рыбалку или решил покататься по тонкому льду...**

Вот последний тревожный факт: вчера в 7.30 утра на водохранилище "Криница" при выборе места для рыбалки провалился под лед и утонул неизвестный. Водолазы ведут его поиск...

Анатолий ГОЛУБ, председатель республиканского совета ОСВОДа.

### Сколько нужно раздеть пэтэушников, чтобы одеть одного милиционера?

**Раздумывая, на чем бы еще сэкономить расходы казны, в Минфине вспомнили о пэтэушниках.**

Как известно, учащиеся ПТУ до сих пор бесплатно обеспечивались форменной одеждой и питанием. Похоже, что в этом году питомцы профессиональных училищ расстанутся с последней привилегией социализма.

Любопытно, что в то же время государственный бюджет отпускает в 1993 году значительные средства на переобмундирование милиции в новую форму одежды — 3,5 миллиарда рублей. Сумма, заметим, во много раз превышающая дотации на содержание ПТУ.

Игорь ФИЛИПЕНКО.

### Посмели бы только "двойку" поставить!

**С боевой гранатой Ф-1 явился в школу 10-летний учащийся из Светлогорска.**

Но это было еще не всё. Дома у школьника милиция обнаружила еще 11 боевых гранат, немецкую ракетницу и пулеметный ствол. Смертоносные "игрушки" времен войны откопал в лесу отец школьника. Эти факты обнародовала пресс-служба Гомельского УВД.

Анатолий ЛИПСКИЙ.

### Вкратце

**По предварительным данным, Совет министров обороны СНГ на своем заседании в Минске 21 января принял положительное решение по всем пунктам повестки дня, за исключением проекта Соглашения об использовании систем спутниковой связи военного назначения.**

Проект отклонен российской делегацией. После заседания Совета министров обороны в полном составе началась дискуссия в Комитете по ядерной политике с участием главнокомандующего ОВС СНГ и министров обороны России, Украины, Беларуси и Казахстана.

❑

**20 января в Киеве руководители трех крупнейших коммерческих банков (Промстройбанка, г.Москва, Проминвестбанка Украины и Белпромстройбанка, г.Минск) подписали соглашение о взаимодействии и сотрудничестве.**

Целью этого соглашения является координация развития банковской деятельности в интересах стабилизации экономики Российской Федерации, Украины и Беларуси, а также повышение эффективности банковского обслуживания народного хозяйства указанных суверенных государств, включая нормализацию расчетов между предприятиями.

❑

**В Минске по приглашению белорусского правительства находится миссия бюро ООН по социальному развитию и гуманитарным делам.**

Состоялись встречи в министерствах социального обеспечения и здравоохранения Республики Беларусь, гости посетили Ивенецкий дом-интернат, протезно-ортопедический завод, НИИ трудовой экспертизы, Товарищество инвалидов по зрению, республиканские общества инвалидов и глухих.

❑

**Некоторые западные средства массовой информации, (например, "Радио Франс Интернасьональ") утверждают, что производство опиума значительно возросло на Кавказе, Украине и в Беларуси.**

Ко всему, нашу республику называют экспортером наркотиков в Польшу и Венгрию.

❑

**Вчера утром в Беларуси начала плановую работу инспекция Королевства Дании, в состав которой входят также военные эксперты США, Бельгии и Франции.**

В соответствии с договором об обыкновенных вооруженных силах в Европе они проведут контроль за ходом уничтожения бронированной техники на танкоремонтном заводе в Борисове, где заканчивается первый этап демонтирования боевых машин пехоты.

❑

**С бело-красно-белого полотнища, которое пять раз торжественно поднималось в честь гимнаста из Минска Виталия Щербо под сводами олимпийского дворца в Барселоне, началось создание музея Национального олимпийского комитета в Беларуси.**

Купленный на аукционе в Испании флаг, этот символ нашей государственности, станет теперь и символом спортивной доблести республики.

❑

**Все санитарные инспекции в Болгарии получили распоряжение о проверке молочных продуктов на предмет выявления их радиоактивного загрязнения.**

Поводом для этих чрезвычайных мер послужило обнаружение контрольными органами радиоактивного цезия в сухом молоке при анализе образцов этого продукта в связи с планировавшимся ввозом его крупных партий из-за рубежа.

**("Народная газета", ИТАР—ТАСС, БелаПАН, Белинформ.)**

### Спорт-экспресс

В республиканском Дворце шахмат и шашек проходит дополнительный матч в два круга трех белорусских шахматистов за две путевки на зональный турнир чемпионата мира среди мужчин. Накануне спор за три путевки вели 32 участника. Первым путевку завоевал победитель этого турнира — Александр Рыскин.

❑

На открытом чемпионате Австралии по теннису минчанка Наталья Зверева во втором круге победила немку Сабину Хак — 7:5, 6:7, 6:3.

❑

В очередном полуфинальном матче за мировую шахматную корону голландец Ян Тимман выиграл у Найджела Шорта (Великобритания) и таким образом счет сравнялся —3:3.

❑

В финале международного футбольного турнира в Гамбурге (Германия), проходившего в несколько этапов с перерывами, чемпион России московский "Спартак" сыграл вничью с голландским "Гронингеном" —2:2 (1:1), но уступил в серии послематчевых пенальти —6:7.

**("Народная газета", РИД).**

### Вчера услышали...

Объем внешнего долга России по состоянию на начало 1993 года составил 75,8 миллиарда долларов.

❑

Саддам Хусейн лично отдал распоряжение о начале реконструкции станкостроительного завода, пострадавшего во время ракетного удара, нанесенного США по военным объектам близ Багдада.

**(По сообщениям радио "Свобода", Би-би-си, "Немецкой волны".)**

## СНД: быць ці не быць?

**Сёння ў Мінску адкрываецца чарговая сустрэча лідэраў СНД. Ёй папярэднічала маштабная і напружаная падрыхтоўчая работа. Чакаецца прынцыповы абмен думкамі аб пройдзеным шляху і перспектывах СНД.**

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Прыспеў час падлічыць, што мы маем у дзяржаўным кашальку

Мікалай АЧЫЖА

У папярэдняй справаздачы "Народная газета" паведамляла, што праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь нараджаецца ў пакутах. Што ж, гэта закон прыроды, дай Бог, каб дзіця было здаровым. Няхай даруюць мне атэісты, але для аматараў дакладных фармулёвак прывяду некалькі вытрымак са стэнаграмы, каб лагічна завяршыць вельмі важнае пытанне.

Канешне, нехта можа сказаць, што праект Канстытуцыі праваліўся, што абмеркаванне закончылася "пшыкам". Кожны мае права на сваю думку.

Вось як, напрыклад, выказаўся народны дэпутат Віктар Ганчар: "Я лічу, што мяккае рэйтынгавае галасаванне, якое мы правялі, не стварыла і не магло стварыць асновы для дзейнасці Канстытуцыйнай камісіі, паколькі для гэтага нам патрэбна ўзгодненая палітычная воля. І колькі б ні працавала Канстытуцыйная камісія, якія б дасканалыя канструкцыі і фармулёўкі яна ні прапаноўвала, калі ў гэтай зале не будзе ўзгодненай палітычнай волі, усе гэтыя канструкцыі разбурацца".

У Зянона Пазьняка, як заўсёды, свая думка: "Спатрэбіўся цэлы дзень, каб большасць з нас зразумела, што парламент знаходзіцца ў глыбокім тупіку, і колькі б ні збіралася Канстытуцыйная камісія, колькі б вы ні абмяркоўвалі гэта пытанне аб Канстытуцыі, адзіная карысць з гэтага будзе, што ўсё больш дэпутатаў зразумеюць сутнасць гэтага тупіка, у якім знаходзіцца Вярхоўны Савет ужо тры гады".

Віктара Ганчара і Зянона Пазьняка аднадумцамі не назавеш, але, хоць і рознымі словамі, яны выказалі аднолькавую занепакоенасць лёсам будучай Канстытуцыі. Для маладой дзяржавы Асноўны Закон — гэта і калыска, і маці-павітуха, і ўсё, усё, усё...

Чым жа закончылася напружаная дыскусія? Першае, асэнсаваннем складанасці праблемы — яе не вырашыш за дзень-два. Дзе ж выйсце? У Старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча такі погляд: "Я лічу, што калі мы вырашым пытанне аб прафесійнасці парламента, то, думаю, што ўсе астатнія пытанні будзе вырашаць значна больш лёгка... Мы чамусьці дэпутацкімі правамі добра карыстаемся, а пра абавязкі забываем".

Можна назваць гэтыя словы і крыкам душы, і папрокам у адрас многіх народных выбраннікаў, але не будзем песімістамі, не той гэта дакумент — Канстытуцыя, каб прымаць яго ў спешцы, з аглядкай на кан'юнктуру дня. Справа не ляжыць у шуфлядзе. Над ёй працуюць, што само па сабе пахвальна.

Учарашні дзень быў прысвечаны эканамічнай тэматыцы. Як мы выканалі дзяржаўны бюджэт у мінулым годзе, якім ён будзе ў бягучым годзе — вось што хвалявала дэпутатаў.

Пытанне вельмі і вельмі няпростае. Ажно тры дакладчыкі — старшыня Дзяржэканамплана Сяргей Лінг, міністр фінансаў Сцяпан Янчук і старшыня Планава-бюджэтнай камісіі Раман Унучка — растлумачвалі дэпутатам усе падрабязнасці планава-фінансавай палітыкі. Немагчыма пераказаць змест трох дакладаў, зазначу толькі, што дамінуючы тон іх — аптымістычны. Напрыклад, міністр фінансаў Сцяпан Янчук заявіў, што ўраду ўдалося пазбегнуць развалу фінансавай сістэмы і ёсць усе падставы, што гэтага не здарыцца і ў далейшым.

Парламенцкая працэдура абмеркавання пачынаецца, як звычайна, з пытанняў. Першым трымаў бой старшыня Дзяржэканамплана Сяргей Лінг. Адно з першых пытанняў закранала цяжкасці вёскі. Яно набывала тым большую актуальнасць у святле нядаўняга аўтобуснага дэсанта з Капыльскага раёна. Сяргей Лінг зрабіў папрок у адрас тых, хто толькі горлам патрабуе даброт, а не развязвае вузельчыкі на месцы. Калі гэтага не рабіць, то вёска "праваліцца". У сваю чаргу ўрад у асобе старшыні Дзяржэканамплана паабяцаў, што вёска будзе поўнасцю забяспечана палівам.

Адказалі дакладчыкі і на шмат іншых пытанняў. Напрыклад, дэпутат Генадзь Маісееў спытаў, чаму Беларусь у адзіноце расплачваецца за чарнобыльскую бяду, ці не пара звярнуцца па дапамогу ў міжнародны суд. Пыталі і пра выкарыстанне замежных крэдытаў, ці не заганяем мы сваіх дзяцей і ўнукаў у даўгавую яму...

Шмат пытанняў задалі дэпутаты, яшчэ больш паставіць іх жыццё. Пакуль што наш кашалёк танкаваты, але ж ёсць надзея, працоўная надзея на тое, што ён зможа стаць багацейшым.

Абмеркаванне бюджэтнага пытання вялося ў другой палове дня.

**АД РЭДАКЦЫІ. Ва ўчарашнім нумары па недагляду аўтара дапушчана недакладнасць — сказана, што народны дэпутат Франц Мінько ад імя аб'яднання "Беларусь" прадставіў свой варыянт Канстытуцыі. На самай справе ён прадставіў праект пастановы Вярхоўнага Савета аб далейшым разглядзе праекта Канстытуцыі. Просім прабачэння ў яго і чытачоў.**

*Из первых уст*

## Кому выгодно запугивать рабочих?

Самостоятельным предприятием Минский завод колесных тягачей стал год назад. Но буквально неделю назад появился приказ председателя Государственного комитета Республики Беларусь В.Куренкова, который гласил: "Преобразовать Минский завод колесных тягачей в два специализированных производства на правах производственных единиц без права образования юридического лица, присоединив их к Минскому автозаводу".

Комитет профсоюза МЗКТ совместно с правлением завода, рассмотрев ситуацию, решили приказ опротестовать. Председатель профсоюзного комитета В.Снигирь от имени трудового коллектива обратился к народному депутату Верховного Совета Республики Беларусь по седьмому избирательному округу В.Грибанову с просьбой выступить с официальным запросом на сессии. Цитируем дословно: "...как мы считаем, путем ликвидации завода руководство Госкомпрома РБ с подачи руководителей МАЗа расправляется с неугодным коллективом, имеющим свою точку зрения на развитие предприятия и 25 марта 1992 года принявшего решение приватизировать завод и создать акционерное общество".

От себя добавим, что именно на этом заводе правительство предполагает создать автобусное производство совместно с немецкой фирмой "Неоплан", не закрывая при этом производство той уникальной продукции, выгодной и конкурентоспособной, которую освоил завод, имея уникальное оборудование.

Создавшуюся ситуацию наш обозреватель Валерий Дроздов попросил прокомментировать заместителя генерального директора ПО "БелавтоМАЗ" по экономическим вопросам **Валерия Бабарыкина.**

— Я не могу отвечать за весь Госкомпром, но, как мне видится, приказ издан прежде всего по экономическим соображениям. МЗКТ создан за счет средств Минского автозавода. Он и сегодня пользуется электроэнергией, топливом, предназначенными для головного предприятия объединения. Кузнечное, металлургическое, инструментальное производство МАЗа тоже работает на завод колесных тягачей, так как своих подобных у него нет. Минский автозавод занимается и материально-техническим обслуживанием МЗКТ. Короче говоря, став юридически самостоятельным, это предприятие во многом существует благодаря МАЗу.

Возьмем экономические показатели. Среднегодовая выработка на одного работающего на Минском автозаводе составила в прошлом году 836 тысяч рублей, на МЗКТ — 270 тысяч. Выручка от реализации продукции (опять же на одного работающего) в 12,7 раза меньше, чем на автозаводе. Зато количество ИТР и служащих здесь за год увеличилось на 160 человек! Только МАЗу коллектив МЗКТ должен сегодня 895 миллионов рублей.

Рабочих "мятежного" завода сегодня пугают предстоящим якобы сокращением двух тысяч рабочих. Абсолютная чушь! Наоборот, в связи с выпуском пользующейся спросом продукции количество рабочих мест, по нашим расчетам, должно увеличиться. Если и придется сократить, что очевидно, то это часть раздутого административного аппарата. Так что не нужно зря запугивать рабочих.

Присоединение завода колесных тягачей — для нас не подарок. Долги, а они составляют сегодня 1 миллиард 234 миллиона рублей, скорее всего придется платить Минскому автозаводу. Фактор весьма и весьма нерадостный. Поэтому ни генеральный директор, ни кто другой на БелавтоМАЗе никаких официальных просьб не делали. Это знаю наверняка. Но, с точки зрения экономиста, — приказ разумный и его надо выполнять. От этого выиграют все — и коллектив завода колесных тягачей, и республика.

*Беларусь — рэспублікі Сярэдняй Азіі*

## Устаноўлены дыпламатычныя адносіны

**21 студзеня Беларусь устанавіла дыпламатычныя адносіны з Туркменістанам, Рэспублікай Узбекістан і Кыргызскай Рэспублікай.**

У гэты дзень у Мінску былі падпісаны адпаведныя пратаколы. Свае подпісы пад імі паставілі ад Туркменістана міністр замежных спраў Халкберды Атаеў, Узбекістана — першы намеснік міністра замежных спраў Шахабіддзін Зіямаў і Кыргызстана — намеснік міністра замежных спраў Аскар Айтматаў. З нашага боку Пратакол з Туркменістанам падпісаў міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, а з Узбекістанам і Кыргызстанам — яго намеснік Уладзімір Астапенка.

Як гаспадары, так і госці перакананы, што ўстанаўленне дыпламатычных адносін на ўзроўні дзяржаў адпавядае агульным інтарэсам і будзе садзейнічаць далейшаму супрацоўніцтву і міру.



❑ Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка і міністр замежных спраў Туркменістана Халкберды Атаеў падпісваюць Пратакол аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Туркменістанам.

Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, Белінфарм.

*Прамы дыялог*

## "Тых, хто парушае законы, трэба выкрываць, а не баяцца..."

### Тры гадзіны на пытанні чытачоў "Народнай газеты" адказваў па тэлефоне старшыня Кантрольнай палаты, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Васіль САКОВІЧ



За той час, што быў адведзены для прамога дыялогу па тэлефонных правадах, субяседнікі не пакінулі Васілю Саковічу ні хвіліны на адпачынак. Хваляванні, што Кантрольную палату яшчэ мала ведаюць, што вечар, абраны для размоў, быў перадсвяточны і людзі заняты іншымі справамі, аказаліся дарэмнымі.

Некалькі чалавек званілі па аднаму і таму ж канкрэтнаму пытанню: чым закончылася праверка ў парніковым камбінаце "Ждановічы" Мінскага раёна, ці не перамагла кантралёраў мясцовая "мафія", ці не адступіла Кантрольная палата? Падставы для такіх разваг ёсць: на 21 снежня прызначалася пасяджэнне, выклікаліся людзі з раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі, з месца, а потым паступіла каманда "адбой". У чым справа? Ці не абараняюць парушальнікаў высокія чыны? Зямля вакол Ждановіч — вельмі прывабная спакуса для тых, хто хоча хутка і без асаблівых турбот пабудаваць шыкоўны дом паблізу Мінска.

**В.Саковіч.** Пытанне з парадку дня не знята. Парушэнні заканадаўства ў "Ждановічах" ёсць, але іх трэба вывучыць да канца. Яны будуць разгледжаны на чарговым пасяджэнні савета Кантрольнай палаты.

**Яновіч** (ад імя ўсёй групы). Мы верым Кантрольнай палаце, таму і задалі такое пытанне.

**В.Шаўнёў.** Я былы дырэктар Слуцкага вучэбна-вытворчага прадпрыемства сляпых. На прадпрыемстве ёсць яўныя парушэнні заканадаўства аб арэндзе. Створаны кааператыў, які не дае ніякай карысці прадпрыемству, ён — як злаякасная пухліна на здаровым целе. Ваш супрацоўнік прыязджаў з праверкай. Мяне цікавіць, чым яна скончылася?

**В.Саковіч.** Я знаёміўся з папярэдняй даведкай. Пытанні, якія вы ўздымаеце, маюць месца. Сёе-тое даправерыць пракуратура — канчатковы вынік атрымаем у бліжэйшы час. Вас мы можам запрасіць на пасяджэнне савета Кантрольнай палаты.

**М.Усціменка,** дэпутат Пухавіцкага раённага Савета. Маё пытанне датычыць продажу будынка музея малому прадпрыемству "Пціч". Старшыня райсавета Зяневіч сцвярджае, што праблемы не існуе, што яна "высмактана з пальца" журналістамі...

**В.Саковіч.** Гэта справа мне знаёмая, яна разглядалася саветам Кантрольнай палаты. За парушэнне заканадаўства мы пакаралі намесніка старшыні і начальніка ўпраўлення культуры.

**М.Усціменка.** Выходзіць, старшыня райсавета няправільна інфармуе грамадзян. Ён гаворыць, што Кантрольная палата не разабралася.

**В.Саковіч.** Я з такой ацэнкай пагадзіцца не магу — з кантролю гэтае пытанне здымаць не будзем.

**С.Кедала.** Я званю з Віцебска, з Дома дзіцяці, па даручэнню выхавацеляў. У нашым калектыве разгарэлася барацьба. Галоўны ўрач праўдай і няпраўдай хоча пазбавіцца ад тых медсясцёр і выхавацеляў, якія цікавяцца, куды падзелася гуманітарная дапамога, куды зніклі будаўнічыя матэрыялы. Яны разбазарваюцца направа і налева. Галоўны ўрач сказаў: "Хочаце многа ведаць — даведаецеся". І выдаў загад аб звальненні. Адчувае сябе галоўны ўрач вельмі ўпэўнена, спасылаецца на намесніка міністра Сцепаненку. А мо ён проста прыкрываецца?

**В.Саковіч.** Думаю, што прыкрываецца чужым добрым імем. Я ведаю асабіста Сцепаненку як сумленнага чалавека.

**С.Кедала.** Мы напісалі Сцепаненку другі ліст. Абласны і гарадскі аддзелы аховы здароўя слухаць нас не хочуць.

**В.Саковіч.** Добра, дапаможам вам разабрацца ў гэтай гісторыі.

**Я.Груша** (г.Мінск). Завод "Гарызонт" выпускае кепскія тэлевізары.

**В.Саковіч.** Прабачце, але мы не кантралюем якасць тэлевізараў.

**Я.Груша.** Куды ж нам звяртацца? 21 тысячу рублёў аддалі за тэлевізар, а ён сапсаваўся, яго ў нас фактычна няма...

**В.Саковіч.** Напішыце ліст на маё імя, і я, як народны дэпутат, перадам яго дырэктару завода "Гарызонт" з просьбай выправіць брак.

**Л.Сярэдзінская** (г.п.Плешчаніцы). Я працую дырэктарам ПТВ N 180. Па даручэнню калектыву падрыхтавала вам ліст. Ці можна прыехаць да вас? Пытанне ў мяне дзяржаўнае. Насупраць вучылішча стаіць аб'ект, які належаў Міністэрству сувязі. Цяпер ён разбураецца, дабро раскрадаецца, а вучылішча не мае свайго інтэрната.

**В.Саковіч.** У Плешчаніцах ёсць вельмі актыўны народны дэпутат. Раю вам звярнуцца ў першую чаргу да яго.

**Л.Сярэдзінская.** Не, мы хацелі, каб умяшалася Кантрольная палата. Так будзе лепш.

**В.Саковіч.** Добра.

**Ананім з Вілейкі.** Кааператыў "Пошук" першы час вёў справы нармальна, а потым кіраўнік стаў злоўжываць службовым становішчам. Мы звярталіся ў райаддзел міліцыі, пісалі пракурору Марозавай. Прайшла праверка, рэвізія. Матэрыялы пайшлі ў пракуратуру Мінскай вобласці, адтуль — упраўленню ўнутраных спраў аблвыканкама. Разглядаў іх Жалабковіч. Фактаў дастаткова, а крымінальнай справы ніхто ўзбуджаць не хоча. Матэрыял ходзіць па кругу.

**В.Саковіч.** Зразумела, але ў функцыі Кантрольнай палаты не ўваходзіць кантроль за работай пракуратуры, міліцыі.

**Ананім.** Дык куды ж звяртацца? Гаспадарчы суд закрыў прадпрыемства. Заснавальнікаў яго няма. Ліквідацыйная камісія ніяк не можа прыступіць да работы.

**В.Саковіч.** Усе паўнамоцтвы ў мясцовых улад. Мы высветлім акалічнасці справы па прадпрыемству і выкажам сваю думку кіраўніцтву раёна.

**Філіпскі.** Нядрэнна было б пры Кантрольнай палаце стварыць масавыя арганізацыі для праверкі гандлю. Як усё ж адабраць у кааператараў-гандляроў дзіцячае харчаванне? Гэта самае агіднае, што ёсць на сённяшні дзень. Харчаванне перапрадаюць у два разы даражэй. За што церпяць дзеці?

**В.Саковіч.** Вярхоўны Савет даручыў нам пакуль што вышэйшы фінансавы кантроль, кантроль бюджэту, дзяржмаёмасці, а пытаннямі гандлю займаюцца іншыя органы. Напрыклад, дэпартамент эканамічнага кантролю, якім кіруе Пазняк.

**Філіпскі.** Гэта Зянон Пазьняк?

**В.Саковіч.** Не. Гэта Мікалай Антонавіч Пазняк. Мы перададзім яму, што для яго дэпартамента ў гандлі шмат работы.

**Ананім з Мазыра.** У нас на прадпрыемстве ідзе пагалоўная прыхватызацыя. Усе кіраўнікі, што маюць доступ да матэрыяльных каштоўнасцей, спяшаюцца абагаціцца, купляюць легкавыя аўтамабілі.

**В.Саковіч.** У студзені супрацоўнікі Кантрольнай палаты праверацЬ ваша прадпрыемства. А вас прашу пазваніць мне яшчэ раз у канцы студзеня.

**К.Мельнікава** (г.Мінск, вул.Чкалава, 20, кв.43). У нашай кватэры вельмі холадна. Прыходзіў нейкі інспектар, але карысці ніякай.

**В.Саковіч.** Гэта пытанне да мясцовых улад, гарвыканкама.

**К.Мельнікава.** Пісалі туды, але вынікаў няма.

**В.Саковіч.** Пішыце міністру жыллёва-камунальнай гаспадаркі, ён вельмі адказны чалавек, спашліцеся на размову са мной.

**Г.Гацкевіч,** дэпутат Бараўлянскага сельсавета Мінскага раёна. Хачу выказаць думку, што ўсе злоўжыванні ад таго, што наша грамадства знаходзіцца ў стадыі жадання лёгка разбагацець, што не пануе прынцып справядлівага пакарання. Пакаранне злачынцаў слабае. Ці можна чакаць ад Кантрольнай палаты, што яна спыніць апетыты "князькоў", каб яны задумаліся, красці альбо не.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

# “Тых, хто парушае законы, трэба выкрываць, а не баяцца...”

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

**В.Сакові́ч.** Пра дзейнасць Кантрольнай палаты вы маглі чытаць у газетах. Мы імкнёмся да шырокай галоснасці. Вярхоўны Савет даў нам невялікія паўнамоцтвы для пакарання вінаватых — перадаць вынікі праверкі ў пракуратуру і ўтрымаць тры аклады максімальна. Калі ж Кантрольная палата ўнесла свае папраўкі, то многія дэпутаты былі супраць. Папраўкі вернуты нам на дапрацоўку. Вы маеце рацыю наконт беспакаранасці. Мы будзем дамагацца, каб паўнамоцтвы Кантрольнай палаты былі пашыраны.

**Скіндзер** (вёска Суцін Пухавіцкага раёна). Восенню 1991 года наш парламент прыняў пастанову аб прыпыненні дзейнасці КПБ—КПСС. Яно яшчэ мае сілу?

**В.Саковіч.** Пытанне стаіць у парадку дня сесіі Вярхоўнага Савета.

**Скіндзер.** Зараз ствараюцца абкамы, райкамы, рыхтуецца з'езд. Забароненая партыя прапагандуе сябе па радыё, на старонках газет. Куды глядзіць парламент?

**В.Саковіч.** Палітычных функцый Кантрольная палата не мае. Як дэпутат магу адказаць, што Канстытуцыйны суд даў заключэнне, што могуць ствараццa пярвічныя арганізацыі — няхай сабе ствараюцца.

**Скіндзер.** Вы маеце на ўвазе расійскі суд?

**В.Саковіч.** Так, расійскі. Ён разглядаў справу КПСС, якая існавала і ў нас на Беларусі, на мой погляд, няхай партыі ствараюцца, жывуць, дыскутуюць — толькі на карысць людзей.

**Скіндзер.** Я не ведаю іншай такой злачыннай партыі, як КПСС...

**В.Саковіч.** Злачыннасцю няхай займаюцца пракуратура, суд. Дэпутаты ўносяць прапанову, каб старшыня Кантрольнай палаты і яе супрацоўнікі не ўступалі ні ў якія партыі.

**Я.Пасенка** (г.Ляхавічы). Мяне звольнілі па скарачэнню. Прашуся да вас на прыём.

**В.Саковіч.** Я не пярэчу, калі ласка, прыязджайце.

**Я.Пасенка.** Дай вам Бог здароўя.

**Валасюк**, дэпутат з Мар'інай Горкі. Чаму правалена пытанне ў Вярхоўным Савеце аб Кантрольнай палаце? Мы вас падтрымліваем, аб чым пісалі ў тэлеграме.

**В.Саковіч.** Тэлеграмы мы не атрымалі, але за падтрымку дзякуй.

**Валасюк.** Трэба змагацца, бо развaліцца рэспубліка. Бескантрольнасць нараджае страшэнныя з'явы.

**Ананім.** Мы, народ, чуем усё. Чулі, што закон аб Кантрольнай палаце вельмі слабенькі, не паспеў нарадзіцца, а ўжо інвалід. Але быццам бы вам пашырылі правы.

**В.Саковіч.** Можна сказаць, што нічога не пашырылі. Пакуль што ў нас няма права караць, але ёсць магчымасць вывесці на свет Божы злодзея, казнакрада.

**Ананім.** Увесь час капалі яму для народа, здзекаваліся. Народ баіцца згубіць працу, пасаду.

**В.Саковіч.** Гэта вельмі дрэнна, што народ баіцца. Кожны спадзяецца на некага іншага. Калі так думаць, то мы ніколі не знішчым зло, злачынства... Таму мы дзейнічаем смела, у адкрытую.

**Цітоў**, інжынер, г.Мінск. Была абвешчана дзяржаўная манаполія на гарэлку. Чаму яна праваліласся? Камерсанты гандлююць гарэлкай па 400—500 рублёў за бутэльку, а па талонах яе не купіць.

Заходжу па праспекту Машэрава ў кааператыў па рамонту кватэр — гандлююць гарэлкай. У Чыжоўцы тое ж самае. На трактарным заводзе крама “Энергія” гандлюе мінскай гарэлкай. Выходзіць, што ўрадавая пастанова — усяго толькі “пшык”, для падману грамадзян?

**В.Саковіч.** Гэта не ўваходзіць у кампетэнцыю Кантрольнай палаты.

**Цітоў.** Але ж вы дэпутат, трэба нешта прадпрымаць.

**В.Саковіч.** Зразумела. Я пастаўлю пытанне перад урадам.

**Б.Шалянгоўскі**, кандыдат навук, дацэнт. Я хацеў сказаць пра паездкі дзяржаўных дзеячаў у бліжэйшае і далёкае замежжа, ці кантралюеце іх вы? Тры-чатыры тыдні таму ў Малдове быў Кебіч. Затым туды паехаў Шушкевіч. Некаторы час у Польшчы быў Шушкевіч, потым туды паехаў Кебіч. У Кітаі быў спачатку Кебіч, за ім — Шушкевіч. Усё адбываецца ў межах бюджэту, але бюджэт можна выкарыстоўваць па-рознаму, можна яго эканоміць, а можна і транжырыць. Хіба не мог, скажам, Кебіч са сваімі памочнікамі вырашыць комплекс праблем у Малдове?

Такімі пытаннямі павінны цікавіцца і Кантрольная палата, і прэса.

**В.Саковіч.** Дзякую за пажаданне.

**Б.Шалянгоўскі.** Другое. Зараз актыўна школы пераводзяць у ранг ліцэяў, каледжаў, інстытуты — у ранг акадэмій, універсітэтаў. Трэску шмат, а ці ёсць эфектыўнасць?

Трэцяе. Для абслугоўвання ўрадавых дэлегацый ствараецца спецыяльнае гаспадарчае ўпраўленне. Пры тых складанасцях, цяжкасцях, якія існуюць сёння ў забеспячэнні, мы ствараем новы прывілеяваны пласт людзей.

**В.Саковіч.** Усе вашы меркаванні я ўважліва выслухаў. Над фактамі патрэбна падумаць, разабрацца.

**А.Базулька** (вёска Судкова Хойніцкага раёна). Я працую ў ПМК-116 будаўніком. Два гады таму яе стварылі з дзвюх будаўнічых арганізацый. Пры гэтым расцягвалі тэлефоны, халадзільнікі, мяккую мэблю... Падлавілі начальніка, а ён штраф заплаціў і звольніўся. Новы прыйшоў начальнік, таксама што хоча, тое і робіць. Усе абагачаюцца за дзяржаўны кошт. А я толькі шыбіну сабе ўзяў, а мяне начальнік злодзеем абазваў. Прэміі пазбавілі мяне і сына...

**В.Саковіч.** Вы звярталіся за абаронай у прафсаюзны камітэт?

**А.Базулька.** Няма сэнсу, няма ніякай абароны. Яны штукараць разам.

І яшчэ хачу спытаць: чаму дзеці начальніка могуць па некалькі разоў ездзіць за мяжу для лячэння, адпачынку, а я сваіх дзяцей (іх у мяне трое, старэйшаму сыну 11 гадоў) адправіць не змог? Дайце мне хоць адрас фонду Грушавога. А наогул на Кантрольную палату ў народзе вялікае спадзяванне.

**В.Кучынскі**, член Канстытуцыйнай камісіі, навуковец. Пры распрацоўцы праекта Канстытуцыі выявіліся тры кантрольныя сілы: Канстытуцыйны суд, Кантрольная палата і пракуратура. Ці не варта ў праекце зрабіць асобны раздзел “Органы агульнага кантролю і нагляду”? Як вы да гэтага ставіцеся?

**В.Саковіч.** Я ваш аднадумец.

На гэтым прамы дыялог з чытачамі “Народнай газеты” закончыўся. За тры гадзіны сумелі дазваніцца 66 чалавек. Пустых пытанняў і пытанняў не па адрасу было мала. На жаль, памеры справаздачы не дазваляюць змясціць усё. Можна зрабіць выснову, што стварэнне Кантрольнай палаты грамадскай думкай падтрымліваецца. Яе існаванне выклікае надзею.

Матэрыялы прамога дыялогу да друку падрыхтаваў
Мікалай ГАЛКО.

*Сустрэча на вуліцы*

## “Проста я не прывык сядзець без справы...”

Увогуле жыццё мінчаніна Аляксандра Пятровіча Горбаня выглядае ўладкаваным: атрымлівае пенсію, жыве з жонкай у дачкі, гадуе ўнучак. Але ўсёдзець у хаце не можа... Праходзячы штодня звыклымі маршрутамі, ён збірае макулатуру, 25 кілаграмаў якой потым здае ў абмен на кілаграм цукру коштам 65 рублёў. Як прызнаецца сам Аляксандр Пятровіч, праца заўсёды была сэнсам яго жыцця, а выхад на пенсію можна параўнаць усяго толькі са зменай спецыяльнасці...

Сяргей ГРЫЦ,
фота аўтара.

*Нам стало известно*

## Плюс-минус два процента...

**По последним данным, предоставленным БелаПАН в Министерстве обороны республики, количество военнослужащих белорусской армии, не принявших присягу на верность Беларуси, составляет около 2 процентов от общей численности.**

Из них около тысячи человек не приняли присягу в связи с тем, что собираются убыть для прохождения дальнейшей службы в других государствах СНГ. Около 800 увольняются в запас, а свыше 200 все еще находятся в командировках, отпусках и на лечении.

Каких-либо эксцессов в ходе принятия присяги не возникало.

Вячеслав БУДКЕВИЧ.

## Каждому бизнесмену — своего детектива?

**По сведениям БелаПАН, в Союзе предпринимателей Беларуси создан совет безопасности.**

В него вошли представители наиболее авторитетных частных агентств, занимающихся детективной и охранной деятельностью.

Как считают компетентные лица, есть опасения, что львиная часть рэкета, промышляющего на территории Польши, вскоре перебазируется в Беларусь. Это связано с тем, что польская полиция, вооруженная более совершенными инструкциями, совсем уж круто взялась за организованную преступность.

Ирина ЛЕВШИНА.

*Факт*

## В Риге — “нелетная погода”

**Резко поменять не только специальность, но и место своей учебы довелось двадцати шести студентам-белорусам, которые получали образование в Рижском авиационном университете.**

Новый учебный семестр все они начнут в разных белорусских вузах. К сожалению, только таким образом удалось разрешить проблему, связанную с требованием Рижского университета оплатить обучение наших соотечественников. Оно было представлено Министерству образования Беларуси и белорусскому Управлению гражданской авиации, которое непосредственно посылало на учебу в Ригу этих молодых людей. Причем, возможность доучиться нашим студентам была оценена больше чем в миллион рублей.

В то же время белорусские образовательные структуры не были такими жестокими в отношении студентов из Латвии. Все они, а это больше ста человек, продолжают получать образование в нашей республике.

Екатерина ВЫСОЦКАЯ,
Белинформ.

*Добрыя весткі*

## Міласэрнасць пачынаецца з маленства

**Здаецца, калядныя канікулы скончыліся як для дарослых, так і для дзяцей. Але ў музычным дзіцячым тэатры “Казка” свята працягваецца. Як сказала педагог тэатра Марына Басёнак, юныя артысты працягваюць радаваць сваімі выступленнямі не толькі маленькіх гледачоў. Дарослым таксама цікава, весела і ўтульна на спектаклях “Казкі”.**

І яшчэ адна адметная рыса дзіцячага тэатра. Гэта дабрачынныя паказы. Так, у чарговы раз для дзяцей-сірот, для дзяцей з чарнобыльскай зоны, якія знаходзяцца на лячэнні ў Мінску, днямі быў паказаны спектакль “Залатое куранё”.

Трэба падкрэсліць, што мінскі дзіцячы тэатр створаны пры Беларускім дзіцячым фондзе і за год сваёй дзейнасці прынёс нямала задавальнення юным гледачам.

Алесь СЦЯПАНАЎ.

*Остановите!*

# ... А то продадут и Беларусь

**Анатолий ГОТОВЧИЦ**

Хвала мудрым и проницательным!

Открыл Дмитрий Иванович Менделеев свою знаменитую табличку, и вся жизнь по ней пошла. Медь и алюминий, свинец и цинк, олово и никель, ртуть и серебро тащат, везут, тянут...

Едва ли не детективные истории происходят с представителями таблицы Менделеева. Начиная с 22 октября теперь уже прошлого года на железнодорожную станцию Калинковичи стали прикатываться, например, вагоны с никелем. Прикатились — и в запасник. Снова прикатились — и опять туда же. А когда вагонов с этим металлом скопилось целых десять, старший оперуполномоченный отдела по борьбе с экономическими преступлениями на транспорте Сергей Штурмин вместе с сотрудниками контрразведки УКГБ по Гомельской области поинтересовался, откуда и чьи цветные “дровишки”?

Тропка, уложенная шпалами и рельсами, потянулась аж за Полярный круг, в окутанный белыми ночами и разными химэлементами Мончегорск. С тамошним объединением “Никель” еще летом мозырское малое предприятие “Полесье ЛТД” заключило договор на поставку 540 тонн анодного никеля. Сумма сделки — 315 миллионов рублей.

Можно, конечно, думать-гадать, каким образом нашлись “Полесье” и “Никель”. Но не менее любопытна, так сказать, правовая основа сделки. Оказывается, в подоплеке “металлического” лежал “продовольственный” договор между администрацией Мурманской области в лице первого заместителя главы администрации Ю.Бергера и директором “Полесье ЛТД” Н.Бабыной.

Соглашение донельзя крутое: “Полесье” покупает на 315 миллионов рублей никеля и поставляет мурманчанам на такую же сумму продовольственных товаров. Каково?

Естественно, всем и мне тоже захотелось взглянуть на продовольственного “геракла”.

Задаю вопросы — и очень даже симпатичный тридцатидвухлетний директор “Полесья” Николай Бабына чувствует себя, как говорят, не в своей тарелке. В объяснении же он засвидетельствовал следующее: “Никаких продуктов питания в обмен на поступивший никель моя фирма в Мончегорск отправлять не собиралась. Это была чисто фиктивная запись”. Ясное дело почему: чтобы иметь лицензию, то есть основание на вывоз никеля из России.

Тут в самый раз пришелся и еще один каверзный, но вполне резонный вопросик: а зачем “Полесью” сей презренный металл? У него ведь ничто не крутится, не вертится, не гальванизируется.

Конечно, переработка мончегорского никеля на белорусском металлургическом заводе–плод коммерческого воображения. Нам кажется, истинные интересы и тех, и других лежат в странах Балтии.

Думать так заставляют недавние события. Не далее как в сентябре “Полесье ЛТД” по лицензии на металлоконструкции, подписанной заместителем председателя Гомельского облисполкома Александром Ярчаком, уже пыталось вывезти в Ригу живой алюминий стоимостью 60 миллионов рублей. Стопорнули “Полесье”, как и в случае с никелем, работники госбезопасности вместе с транспортной милицией.

Ближайшее знакомство с “Полесьем” и многими другими белорусскими предприятиями и ассоциациями дает основание сделать один нехорошенький вывод: используются они в первую очередь в качестве своеобразной посреднической крыши. Россия предприняла против ряда республик бывшего Союза санкции на вывоз цветных металлов, горючего, многого другого сырья и, конечно, готовой продукции. Используя фиктивные договоры и лицензии, “Полесье ЛТД” и иже с ним просто-напросто перепродают российское сырье в страны Балтии. Разница в ценах дает безбедное существование.

Может, хватит плодить в республике наглых спекулянтов? А то они продадут не только Россию, но и Беларусь.

Этот вопрос — правительству и, конечно, парламенту.

*Закон і беззаконне*

# Арыштаваны па падазрэнню...

**Жыхары інтэрната Полацкага БМУ літаральна анямелі, калі ў калідоры раптоўна з'явіліся людзі з аўтаматамі. Без доўгіх разважанняў яны прайшлі ў пакой Аляксандра Смоткіна, інжынера мясцовага вузла сувязі, прыкавалі яго кайданкамі да металічнага ложка і пачалі вобыск. У голасе нечаканых візіцёраў выразна адчуваўся замежны акцэнт. У той жа дзень, 9 лістапада 1991 года, Аляксандра Смоткіна пад канвоем вывезлі ў Літву.**

18 кастрычніка 1992 года ў кватэру жыхара г.Глыбокае Станіслава Герасімавіча Коўзана зайшлі двое мужчын у цывільным. Прад'явіўшы санкцыю ваеннага пракурора Ліепайскага гарнізона на вобыск і арышт Паўла Коўзана, расійскія праваахоўнікі забралі яго і паехалі ў невядомым накірунку, нават не растлумачыўшы бацьку, у чым абвінавачваецца яго сын і дзе ён будзе знаходзіцца. Далей маршрут ваенных пралёг праз Баранавічы, дзе яны правялі падобную акцыю.

У кожным з гэтых выпадкаў ёсць свае асаблівасці, але іх аб'ядноўвае адна акалічнасць, што і прымусіла мяне ўзяцца за пяро: хто гаспадар у Рэспубліцы Беларусь? Хто дазволіў іншаземным пінкертонам, ні ў каго не пытаючыся, арыштоўваць на нашай тэрыторыі і вывозіць з рэспублікі яе грамадзян “па падазрэнню”? Ці дапусціць, напрыклад, тая ж Польшча, каб беларускія апаратыўнікі з аўтаматамі прыехалі туды і на падставе сваіх ордэраў абшуквалі “па падазрэнню” яе грамадзян, арыштоўвалі і вывозілі іх немаведама куды для далейшага расследавання?

На апошняе пытанне можна адказаць аднназначна — не. Пра ўсё астатняе варта паразважаць, і вельмі хацелася б, каб гэтыя разважанні не засталіся пустым гукам, а прымусілі б задумацца нашых заканадаўцаў над тымі праблемамі, вырашэнне якіх нельга адкладваць.

❑

Аляксандра Смоткіна затрымалі супрацоўнікі Полацкага гарадскога аддзела ўнутраных спраў. У ноч з 8 на 9 лістапада сюды паступіла тэлетайпаграма з МУС Літвы:

“Падазраваемага ў спробе наўмыснага забойства пры абцяжарваючых абставінах Смоткіна Аляксандра Раманавіча 1949 года нараджэння прашу затрымаць да прыбыцця канвоя. Канвой выязджае. Старшы камісар крымінальнай паліцыі МУС Літоўскай Рэспублікі В.Рачкаўскас.”

На падставе гэтай тэлетайпаграмы яго і затрымалі. Ніякіх працэсуальных дакументаў не афармлялі. Пракурор горада нічога пра здарэнне не ведаў. Калі размова зайшла пра вываз А.Смоткіна ў Літву, пазванілі ў Гродна, пасля ў Мінск. Пазней намеснік міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь У.Данько растлумачыць:"Рашэнне прынята са згоды міністра Ягорава У.Д. Якіх-кольвечы дакументаў, што тычацца гэтага пытання, у МУС няма".

Бацька арыштаванага Раман Навумавіч Смоткін звяртаўся са скаргамі ў розныя інстанцыі, у тым ліку і ў Вярхоўны Савет. У адной з заяў ён пісаў:"Ніякіх забойстваў мой сын не здзяйсняў, ды і на працягу ўсёй граніцы з Літвою ў гэты час падобнага не было. Проста мой сын быў актыўным удзельнікам групы “Адзінства”, уваходзіў у яе кіруючы орган і публічна абараняў на мітынгах і ў друку палітычныя правы рускамоўнага насельніцтва Літвы, у тым ліку і беларусаў. Акрамя таго, ён прыцягваўся для работы на тэлевежы ў г.Вільнюсе па спецыяльнасці..."

І яшчэ адна вытрымка з заявы Р.Н.Смоткіна:

“З-за супрацьпраўных дзеянняў міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь Ягорава У.Д. мой сын Смоткін Аляксандр Раманавіч пакутуе ў засценках літоўскай ахранкі”.

Далей Раман Навумавіч патрабуе разжалаваць Ягорава У.Д. у радавыя, аддаць яго пад суд за злоўжыванне службовым становішчам, што выклікала маральныя і фізічныя пакуты сумленнага чалавека, працаўніка і абаронцы грамадзянскіх і агульначалавечых правоў...

Абвінавачанне больш чым сур'ёзнае. Можна зразумець бацьку. Аднак трэба разумець і сітуацыю, што склалася ў той момант.

У ноч з 6 на 7 лістапада на мытным пасту на літоўскай граніцы разыгралася крымінальная драма. Расследаванне не дапускала прамаруджвання. На месцы злачынства знойдзены важкія доказы для абвінавачання. Рашэнне трэба было прымаць неадкладна. На момант затрымання Аляксандр Смоткін не з'яўляўся грамадзянінам Рэспублікі Беларусь. Выехаўшы з Літвы адразу пасля жнівеньскага путчу, ён уладкаваўся на працу ў Полацку, дзе жыў у інтэрнаце без прапіскі. Прапісаўся ён літаральна за дзень да злачынства на граніцы, але чамусьці не ў Беларусі, дзе жыў і працаваў, а ў Пскоўскай вобласці. Зусім відавочна, што быць грамадзянінам нашай рэспублікі ён па нейкіх меркаваннях пакуль што не збіраўся, нарадзіўся ж і ўвесь час жыў у Літве. На той момант яго можна было лічыць асобай без грамадзянства. І Уладзімір Ягораў прыняў рашэнне — перадаць А.Смоткіна літоўскай паліцыі. Ці правільным яно было?

Супрацоўнік полацкай міліцыі, цяпер намеснік начальніка Верхнядзвінскага РАУС Аляксандр Ліпскі ў службовай запісцы выклаў сутнасць сваёй размовы з падазраваемым пасля яго затрымання.

“Было праведзена апытанне грамадзяніна Смоткіна, які растлумачыў, што сапраўды на КПП у Літве ў час дагляду аўтамабіля ён аказаў супраціўленне прадстаўнікам мытнай службы і з мэтай збегчы кінуў гранату. У лясным масіве ён згубіў куртку, дзе, па яго меркаванню, застаўся пропуск ці якісьці іншы дакумент з яго прозвішчам і такім чынам паліцыі сталі вядомы звесткі пра яго.

... Смоткін А.Р.расказаў, што ён з'яўляецца членам адной з нелегальных арганізацый, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Літвы, асноўнай мэтай ставячы адраджэнне ранейшага ладу разнастайнымі шляхамі, не выключаючы і тэрарыстычных актаў. У іх арганізацыі меліся радыёстанцыі, зброя. З мэтай сустрэчы з членамі арганізацыі ён неаднойчы выязджаў у Літву. У адну з такіх паездак напярэдадні 7 лістапада на дзвюх машынах выехалі і з тэрыторыі Беларусі, выходзілі ў эфір па радыёстанцыі з разнастайнымі заклікамі. Пры вяртанні адна машына была затрымана, і ён прымяніў гранату. Выказваў шкадаванне, што нікога не забіў, у далейшым меркаваў працягваць барацьбу".

У заяве самога А.Смоткіна, напісанай ужо ў Літве, гаворыцца:

“Я чыстасардэчна прызнаўся, што са жніўня па ліпень 1991 года хаваў на тэрыторыі Беларусі зброю... незаконна прывёз пісталет Макарава і 16 патронаў, меў 2 гранаты РГ-42, а таксама ўзрыўчатку”.

Зброю шукалі. Следчы-крыміналіст літоўскай пракуратуры С.Валайціс паведаміў у Мінск, што пісталет захоўваецца ў якасці рэчавага доказу. Гранаты ўзарвалі. Узрыўчатку не знайшлі.

Думаецца, нікому не трэба тлумачыць, навошта патрэбны пісталеты і гранаты. Каб забіваць людзей. А калі вырашаць з дапамогай зброі палітычныя спрэчкі — значыць, забіваць людзей нявінных.

Усе гэтыя падрабязнасці Уладзіміру Ягораву тады не былі вядомы, і, на мой погляд, ён здолеў аператыўна прыняць адзіна правільнае рашэнне. Увявім сабе, што б мы думалі, калі б хто-небудзь дзейнічаў такім чынам супраць Беларусі.

Ніякага заканадаўства аб выдачы асоб без грамадзянства іншай дзяржаве ў нас не існуе, і таму пралікі пры афармленні дакументаў, захаванні працэдуры былі непазбежныя. У сваім адказе Р.Н.Смоткіну выконваючы абавязкі Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Уладзімір Кандрацьеў напісаў:

“...Звернута ўвага работнікаў органаў унутраных спраў рэспублікі, якія маюць дачыненне да гэтага пытання, на дапушчаныя недахопы пры выдачы Смоткіна А.Р. літоўскаму боку. Падстаў для пастаноўкі пытання аб іх крымінальнай адказнасці няма”.

Міністэрства замежных спраў рэспублікі накіроўвала ноту МЗС Літвы з мэтай выявіць абставіны, звязаныя з арыштам А.Смоткіна на тэрыторыі Беларусі. Адказ быў карэктным і, па-сутнасці, адмоўным, бо і тут адпаведных міждзяржаўных пагадненняў няма.

Зусім інакш можна і трэба расцэньваць арышт Паўла Коўзана. Ён служыў у арміі ў г.Ліепая. Магчыма, сапраўды быў замешаны там у нейкай крымінальнай справе. Але ён дэмабілізаваўся, стаў на ўлік у Глыбоцкім райваенкамаце і 15 кастрычніка 1992 года атрымаў пашпарт як грамадзянін Рэспублікі Беларусь. Ахоўваць і абараняць яго правы павінна была дзяржава. Аднак не абараніла. Расійскія праваахоўнікі нават не палічылі патрэбным інфармаваць пракурора горада і вобласці аб арышце грамадзяніна Беларусі і яго вывазе за межы рэспублікі. Быццам у нас тут нейкі прахадны двор, дзе распараджаюцца хто хоча і як хоча. Па папярэдніх звестках, арышт Коўзана звязаны з крадзяжом ваеннай маёмасці. Чаму ж тады наша пракуратура не едзе ў Расію, каб прыцягнуць да адказнасці высокапастаўленых чыноў з той жа нагоды, якія спешна рэціраваліся з Беларусі, як толькі запахла “смажаным”?

Не можа не выклікаць абурэння і той факт, што ў нашу рэспубліку беспераіпкодна ўехалі ўзброеныя людзі з Літвы. Ці ёсць гарантыі, што ў іншым падобным выпадку дакументы акажуцца непадробленымі? Дакументам на ўезд у рэспубліку можа быць толькі належным чынам афармлены пашпарт, а не якое-небудзь пасведчанне, і дазвол на правоз зброі можа быць дадзены толькі кампетэнтнымі органамі нашай рэспублікі, калі на гэты конт не заключаны міждзяржаўныя пагадненні. Дарэчы, калі малдаўскія і літоўскія праваахоўнікі спрабавалі правесці аналагічныя акцыі на Украіне, іх тут жа арыштавалі. На Беларусі быццам бы ўсё можна.

Праўда, нядаўна заключаны пагадненні паміж Пракуратурай рэспублікі і калегамі з Літвы і Латвіі аб узаемнай прававой дапамозе. Аднак яны не маюць сілы закона, не прадугледжваюць вырашэння праблем прававых узаемаадносін. Такія пытанні могуць вырашацца не ніжэй чым на парламенцкіх узроўнях шляхам прыняцця адпаведных заканадаўчых актаў, Такі дакумент неадкладна трэба было б прыняць і на нарадзе кіраўнікоў краін СНД. Інакш ніхто з нас не застрахаваны ад таго, што аднойчы па прычыне ці без прычыны будзе закаваны ў кайданкі людзьмі з замежным акцэнтам і вывезены за межы сваёй Беларусі.

Іван ГЕРАСЮК,
аглядальнік па пытаннях маралі і права.

